**Тэма нумару:** Ад Грунвальда - да Незалежнасці

НАШ Магілёў

# Наш Магілёў

Грамадска-палітычная незалежная газета горада **№ 45(7), ліпень 2010 года**

# 20 ГОД НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ!

*Ігар БАРЫСАЎ*

**27 ліпеня 2010 года споўнілася роўна 20 год з таго моманту, як Вярхоўны Савет XII склікання БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверынітэце. Гэта было за год да фактычнага распаду Савецкага Саюза, калі 25 жніўня 1991 года на экстраннай пятай сесіі Вярхоўнага Савета гэтай Дэкларацыі была нададзена Канстытуцыйная сіла, якая замацавала незалежнасць нашай краіны.**




З пастановы Вярхоўнага Савета вынікала, што 27 ліпеня становіцца афіцыйным Днём Незалежнасці Беларусі і святкаваць яго неабходна як дзяржаўнае свята.

Фактычна гэта так і было да таго часу, пакуль у выніку Рэферэндума 1996 года па ініцыятыве Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі не была вынесена прапанова аб тым, каб Днём Незалежнасці Беларусі прызнаць 3 ліпеня - дзень вызвалення Менска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Па афіцыйных выніках Рэферэндума - народ выказаўся за падтрымку прапановы Прэзідэнта.

Васіль Быкаў у інтэрвью "Радыё Свабода" некалі адзначыў:

"Ну, вядома, што кожная гістарычная з'ява набывае сваё выразнае разуменне з адлегласці часу. У маштабах гісторыі вельмі цяжка зблізку зразумець тое ці іншае. Асабліва такую з'яву лёсавызначальную, як суверэннасць, скажам, той ці іншай краіны. Або яе шлях да гэтай суверэннасці. Ну але што датычыць суверэннасці Беларусі, дык можна ўжо сказаць пэўна, што ўсётакі тое, што адбылося, хаця і не прынесла плёну, але, безумоўна, яго нельга пераацаніць у гістарычных маштабах. Гэта вельмі значная з'ява, і хаця яна, можна сказаць, скончылася нічым, яна дала, па-першае, урок, па-другое, яна ў каторы раз заклала падмурак. І ўрэшце, я думаю, што гэтыя падмуркі калі-небудзь спраўдзяцца і спатрэбяцца. Ну, калі гэта будзе - цяжка сказаць.

Што ж датычыцца Апазіцыі ў Вярхоўным Савеце, то я думаю, што ў тых умовах, у той час менавіта Апазіцыя Беларускага народнага фронта зрабіла гераічны ўчынак з таго, што дамаглася менавіта гэтай суверэннасці. Гэта, канечне, яе заслуга. І чым далей, незалежна ад таго, чым гэта скончыцца - незалежна ад гэтага - ад лёсу Беларусі наагул, зноў жа, у гістарычным вымярэнні гэта будзе вельмі значна, і гэта будзе ацэнена праз вякі. І тут ня так важна, ці гэта скончылася вялікай удачай, хаця, канечне, шанец быў, вельмі рэдкі. Ну, відаць, грамадства перш за ўсё, з пэўных прычын не магло пакарыстацца гэтым шанцам. Але, усё-такі зроблена спроба, можа быць самая радыкальная і самая выніковая спроба з усіх спроб. А няўдача - яна часам бывае болей значна і болей красамоўная за якую-небудзь удачу, асабліва за ўдачу напалову. Я думаю, што час ацэніць".

Так ці інакш, але гэта падзея заклала аснову сучаснай незалежнасці Беларусі і па-праву мусіць быць дзяржаўным святам, як і 25 сакавіка, калі была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка, якая была перадумовай сучаснай дзяржаўнасці.

## ПРЭАМБУЛА ДЭКЛАРАЦЫІ

**Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі**

**выяўляючы волю народа Беларускай ССР,**

**усведамляючы адказнасць за лёс беларускай нацыі,**

**пацвярджаючы павагу годнасці і правоў людзей усіх нацыянальнасцей, якія жывуць у Беларускай ССР,**

**сведчачы павагу да суверэнных правоў усіх народаў Саюза ССР і свету,**

**лічачы рэспубліку паўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва,**

**дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнародна-прававымі актамі,**

**урачыста абвяшчае поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах і заяўляе аб рашучасці стварыць прававую дзяржаву.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ**



**ПОШТА**

**Сутыкнуліся з праблемай і не ведаеце да каго звярнуцца? Пішыце нам - мы паспрабуем дапамагчы Вам!**

Магілёў, вул. Ленінская, 29, оф. 315,
e-mail: mahilou@tut.by

# Как достичь зарплаты в 500 долларов

*Ирина ОРЛОВА, zautra.by*

**Несмотря на всю экономическую неадекватность тезиса о 500-долларовой зарплате этот популистский показатель может быть выполнен. Анализ динамики начисленной заработной платы за две последние пятилетки показывает, с помощью каких уловок власти могут достичь выполнения своих предвыборных обещаний.**

## Эффект конца года

500 долларов -- это на самом деле начисленная номинальная средняя заработная плата на конец года. А в декабре на предприятиях выплачивают всевозможные годовые и праздничные премии, тринадцатые зарплаты.

Уже в следующем месяце -- в январе -- средняя зарплата снижается по отношению к декабрю. И многолетние данные статистики показывают, что снижение составляет в среднем не менее 20 долларов.

С учетом того, что в июне зарплата достигла 410 долларов и таким образом до выполнения показателя остается еще 90 долларов, порядка 20 долларов от 90 можно смело отнять, так как такой подъем в декабре будет обеспечен лишь за счет начисления премиальных. Тут же отметим, что речь идет о начисленной заработной плате, которая может быть выплачена в натуральной, а не в денежной форме.




## Тарифная ставка

Но остается еще 70 долларов. Естественно номинальную зарплату необходимо будет поднимать, в том числе, директивно. Уже объявлено, что с 1 ноября будет повышена тарифная ставка первого разряда до 118-120 тысяч рублей.

Предыдущее повышение тарифной ставки произошло с 1 июня текущего года. Она выросла на 9 тысяч до 90 тысяч. рублей. В июне по сравнению с маем, зарплата выросла сразу на 25 долларов, хотя в предыдущие месяцы зарплата росла темпами в среднем по 9 долларов в месяц. Правда, и без всякого повышения ставки в марте, например, зарплата выросла по сравнению с февралем сразу на 20 долларов, но здесь, возможно, сказалось большее количество рабочих дней в марте по сравнению с февралем, а также опять-таки возможные премиальные (квартальные).

В любом случае, эффект налицо. Так что увеличение тарифной ставки на 30 тысяч рублей может прибавить сразу в декабре еще долларов 30, а то и 40.

Кстати, в прошлой пятилетке, когда шла битва за достижение номинальной начисленной заработной платы в 250 долларов на конец 2005 года, тарифная ставка тоже была поднята в конце года, правда, не с 1 ноября, а с 1 октября. С учетом эффекта последнего месяца и повышения ставки зарплата за три последних месяца 2005 года выросла на 35 долларов или на 15% по отношению к сентябрьской зарплате. В итоге план по заработной плате был даже перевыполнен. На конец 2005 года она составила порядка 260 долларов, увеличившись по сравнению с декабрем 2004 года на 60 долларов. То есть более половины увеличения за год пришлось на последний квартал.

Так что в сегодняшней ситуации планируемое повышение ставки первого разряда в совокупности с премиальными реально может дать прибавку в последние два месяца на уровне 50 долларов. Таким образом, в оставшиеся четыре месяца нужно будет показывать рост в среднем по 10 долларов в месяц, что не так уж и много.

## Курсовая политика

Но все это будет возможно в ситуации с практически неизменным курсом рубля по отношению к доллару. А если белорусский рубль еще и укреплять, то можно получить "из воздуха" прибавку в 10-15 долларов. Политика укрепления белорусского рубля в 2005 году во многом способствовала быстрому увеличению долларового эквивалента начисленной заработной платы. К тому же необходимо учитывать, что, начиная с 2002 года, происходила девальвация самого доллара на международном рынке. И если бы зарплату нужно было доводить до эквивалента в евро, ее пришлось бы повысить еще на 30-40%. Так что курс белорусского рубля, очевидно, будут держать всеми способами, даже если это будет негативно отражаться на золотовалютных резервах страны.

Отметим, что в середине прошлой пятилетки звучали громкие заявления о зарплате в 700 долларов на конец 2010 года, но окончательно в планы вошли именно 500 долларов. Хотя власть, очевидно, рассчитывала перевыполнить этот показатель с большим запасом -- это было бы настоящее предвыборное экономическое чудо -- ведь на конец 2008 года средняя зарплата по стране уже составляла 455 долларов. Скажем прямо, досрочному выполнению этого показателя помешали кризис и кредит МВФ.

Из-за девальвации 2 января 2009 года, на которой настоял МВФ, зарплата в январе 2009 года упала по сравнению с декабрьской зарплатой 2008 года более чем на 120 долларов сразу! К тому же МВФ потребовал отменить повышение тарифной ставки первого разряда, которую власть сначала предприняла в ноябре 2008 года. Тогда ставка первого разряда должна была вырасти до 91 тысячи рублей, но через месяц ставку опустили до 77 тысяч рублей.

В итоге в январе 2010 года средняя зарплата в Беларуси в рублях составляла столько же, сколько в декабре 2008 - - порядка 1 млн. рублей. Но в январе 2010 года это было вовсе не 455, а всего лишь 350 долларов. Зарплаты уровня декабря 2008 года в долларовом эквиваленте мы не достигли до сих пор, а ставка первого разряда увеличилась до желанного показателя ноября 2008 года только с июня (не добрав 1 тысячу рублей). Так что говорить о том, что кризиса у нас нет или что мы его уже не преодолели, пока нет никаких оснований.

Этот пример также хорошо показывает, как курс доллара влияет на уровень долларовой зарплаты, а это вызывает серьезные опасения, что как только зарплата будет доведена до 500 долларов к концу года, уже в начале следующего может начаться ускоренная девальвация.

---

*Дайджест от Алеся Татарского*

## Хит-парад президентов: Обама на 15-м месте

Американские историки в очередной раз провели классификацию 44 американских президентов. В пятый раз с тех пор, как была создана эта классификация, на первом месте оказался Франклин Делано Рузвельт, Барак Обама с хорошей коммуникабельностью, воображением и интеллектуальными способностями, но недостаточным опытом оказался на 15-м месте.

## В Польше победила Европа

С приходом Бронислава Коморовского исчезнет страх перед Европой, Германией и Россией, типичный для эпохи президентства Леха Качиньского. Польша больше не будет для Европы тормозом, а активизирует и сделает более конструктивной свою деятельность в ЕС.

## Памеры ўсіх відаў працоўных пенсій з 1 жніўня павялічацца ў сярэднім на 12,5 працэнта

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 21 ліпеня падпісаў указ нумар 371 "Аб павышэнні працоўных пенсій". Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе беларускага лідэра.

Гэтым указам з 1 жніўня 2010 года павялічаны памеры ўсіх відаў працоўных пенсій у сярэднім на 12,5 працэнта.

У выніку памер сярэдняй пенсіі ў жніўні 2010 года складзе Br528,3 тыс. і павялічыцца на Br58,6 тыс.В Польше победила Европа

С приходом Бронислава Коморовского исчезнет страх перед Европой, Германией и Россией, типичный для эпохи президентства Леха Качиньского. Польша больше не будет для Европы тормозом, а активизирует и сделает более конструктивной свою деятельность в ЕС.

## Изготовители ноутбуков будут делать унифицированные зарядные устройства

Крупнейшие в мире изготовители ноутбуков получили договоренность перейти на зарядные устройства единого образца. Специалисты предполагают, что с внедрением нового стандарта, персональные портативные компьютеры станут стоит меньше до 10%.

## На посетителей пляжа Нью-Гэмпшира напала мертвая медуза

Более 100 человек получили ожоги, девять детей были доставлены в больницу, после того как к берегу одного из пляжей Нью-Гэмпшира прибило тело мертвой медузы. Разбившись о камни, ее тушка разделилась на кусочки, которые разрозненно плавали в воде и жалили купающихся людей.

# Грунвальдская бітва прынесла мір

*Генадзь САГАНОВІЧ*

**Улетку 1410 года войска нямецкага Ордэна і злучаныя сілы Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы сышліся на ўзгоркавым полі паміж тагачаснымі прускімі мястэчкамі Грунвальд і Танэнберг. Рыцары з'явіліся тут першыя і добра падрыхтаваліся да бітвы. Вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген размясціў артылерыю і арбалетнікаў, загадаў выкапаць і прыкрыць спецыяльныя ямы супраць конніцы непрыяцеля. Сабраныя тут сілы Ордэна дасягалі 20 тысяч.**

Армія Вітаўта і Ягайлы была пастаўлена перад нямецкім войскам такім чынам, што ўтварала роўны па даўжыні фронт з праціўнікам. На правым флангу стаялі 40 харугваў Вялікага Княства Літоўскага, каля паловы якіх прыйшлі з беларускіх земляў, - берасцейская, ваўкавыская, віцебская, гарадзенская, лідская, мсціслаўская, навагародская, пінская, полацкая, смаленская, старадубская ды іншыя. Апроч іх у складзе Вітаўтавых сілаў быў аддзел татарскай конніцы, якую прывёў хан Джэлалад-Дзін. Польскае войска складалася з 50 харугваў. Дапамагаць ім прыйшлі найманыя аддзелы чэхаў і мараваў. Разам хаўруснікі мелі велізарную армію - блізу 25-30 тысяч.

Нямецкія рыцары імкнуліся выклікаць атаку непрыяцеля, каб яшчэ да сечы прычыніць яму страты падрыхтаванымі ямамі і артылерыйскім агнём. Яны нават адвялі свае перадавыя аддзелы назад. Раніцай 15 ліпеня 1410 года харугвы Вялікага Княства першымі кінуліся на ворага - спачатку лёгкая конніца, затым цяжкая. Палякі марудзілі і ўступілі ў бой пазней. Калі Вітаўт быў сярод свайго войска і сам кіраваў ім у сечы, дык Ягайла знаходзіўся ў тыле, каля лагера, на высокім пагорку, з якога ажыццяўляў агульнае кіраванне злучанымі сіламі.

Дзве велізарныя арміі сутыкнуліся, і лютая сеча залехатала па ўсёй даўжыні фронту, аднак галоўныя сілы Ордэна на чале з маршалам Конрадам Валенродам памкнуліся на фланг Вялікага Княства. Прыкладна праз гадзіну ўпартай бітвы харугвы Вітаўта пачалі адступленне да свайго абозу, і рыцары кінуліся ў пагоню. Гэтак пачаў здзяйсняцца вырашальны для баталіі манеўр Вітаўта, узгоднены з Ягайлам. Яго войска не ўцякала, як пра тое пісалі многія гісторыкі, а дзейнічала паводле вызначанага плана дзеля парушэння баявых парадкаў цяжкаўзброеных рыцараў. Іх такім чынам рассейвалі па шырокай мясцовасці.

Толькі смаленскія харугвы, пакінутыя Вітаўтам, прыкрывалі правы фланг палякаў і неслі цяжкія страты. Тым часам рыцарская конніца, якая гналася за "ўцекачамі" да абозу арміі Вялікага Княства, была знішчана, і харугвы зноў вярнуліся на поле бітвы. Яны ўдарылі з тылу па групоўцы Ульрыха фон Юнгінгена захопленай сечай з палякамі. Неўзабаве харугвы магістра і правы фланг войскаў Тэўтонскага ордэна былі аточаныя і апынуліся ў двух вялізных катлах. Пачаўся разгром крыжацкай арміі. Частка яе вырвалася з атачэння і паспрабавала наладзіць абарону ў сваім умацаваным абозе, аднак хаўруснікі ўварваліся ў табар і ў асабліва крывавай сечы даваршылі знішчэнне галоўных сілаў Ордэна.

Перамога ў бітве пад Дуброўнаю (так называюць гэту бітву беларускія летапісы) далася дарагой цаною. У чужую зямлю палегла палова ратнікаў, прыведзеных Вітаўтам, сярод якіх - тысячы беларусаў. Але палітычнае значэнне гэтай перамогі цяжка пераацаніць. Амаль дзвюхсотгадовая агрэсія нямецкіх рыцараў на ўсход была спынена.

Разгромлены Ордэн так і не змог узнавіць сваіх ранейшых сілаў ды неўзабаве знік як самастойная дзяржава. Баланс сілаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе змяніўся на карысць славянскіх краінаў. Вялікае Княства змагло адмовіцца ад нявыгадных умоваў уніі 1401 года з Польшчаю і стала больш самастойным. Нарэшце, пасля разгрому Тэўтонскага ордэна яно атрымала амаль стагоддзе параўнальна мірнага існавання - да пачатку экспансіі Маскоўскай дзяржавы.




# Грунвальдская бітва ў Мінску: 70 затрыманых

*Наста Шамрэй,*
*Юльян Місюкевіч,*
*«Наша Ніва»*

**Вясёлая акцыя пачыналася невесела. Андрэй Кім, зусім як Ягайла 600 гадоў таму, доўга не наважваўся даць свайму войску каманду. Маразм: міліцыя ганяла моладзь, якая арганізавала бой падушкамі ў гонар юбілея Грунвальда.**

Міліцыя перашкаджала: каля 70 затрыманых адвезлі ў Першамайскі РУУС Мінска. Іх забралі проста за наяўнасць падушкі. Але рыста "вайроў" усё адно пабілася ля станцыі метро "Усход". Разагнала мінскі Грунвальд залева. Арганізатара Андрэя Кіма заўтра будуць судзіць за арганізацыю несанкцыянаванай акцыі.

Андрэй Кім, зусім як Ягайла 600 гадоў таму, доўга не наважваўся даць свайму войску каманду. Ён вёў яго ад станцыі метро "Усход" углыб зялёнай зоны. Сталі на пагорку. Следам ішоў маёр міліцыі з мегафонам і паўтараў, што акцыя несанкцыянаваная. Кім паспрабаваў дамовіцца з маёрам, але той усё паўтараў фразу пра несанкцыянаванасць.

18.30 Міліцыя вяртае ўсіх, хто ідзе ў бок Нацыянальнай бібліятэкі. Моладзь з падушкамі затрымліваюць і праважаюць у аўтобусы.

Перахопліваць моладзь пачалі ад 18-й гадзіны на выхадзе з метро "Усход". Міліцыянты ў форме правяралі рэчы. На пытанне, навошта гэта робіцца, аджартоўваліся. Трохі бліжэй да Нацыяналкі стаяць супрацоўнікі ў цывільным, якія пільней правяралі людзей з заплечнікамі і вялікімі сумкамі ды адводзілі ў аўтобусы.

19.00 Два аўтобуса ўжо з'ехалі. У трэці аўтобус загрузілі 42 чалавекі. Таксама міліцыя выяўляла цікавасць да журналістаў. Былі праінспектаваныя пасведчанне асобы і фотаапараты Сяргея Грыца, фатографа агенцтва Associated Press. Матывацыя - у кагосьці ўчора скралі фотаапарат "Кодак".

19.15 Каля уваходу станцыі метро "Усход" сабралося ля сотні чалавек. Моладзевы актывіст Андрэй Кім ладзіць конкурсы, раздае значкі з выявай вершніка з падушкаю. Следам ён распавёў прысутным пра Грунвальдскую бітву і правёў гістарычную віктарыну. Міліцыя не чапала натоўп моладзі ля выхаду з метро. Толькі паведамляла, што акцыя несанкцыянаваная. "Мы самі будзем вызначаць дзе і калі нам біцца падушкамі", - рэагаваў Кім. Пасля




ён папрасіў моладзь адысці ад метро на зялёную зону і спытаўся ў прысутных параду, што рабіць. Некалькі сотняў маладзёнаў выгукнула: "Біцца!" Але Кім цягнуў, хацеў атрымаць хоць вусны дазвол міліцыі. Міліцэйскае начальства ўнікала размоваў з Кімам у прысутнасці журналістаў.

19.30 Як стала вядома, у Першамайскі РУУС адвезлі каля 70 затрыманых. У іх бралі адбіткі пальцаў, некаторых адпускалі. З'явілася інфармацыя, што затрыманых адпускаюць з Першамайскага РУУС. Пасля заўвагі супрацоўнікі міліцыі моладзь адышла ў бок на траву. Многія трымаюць у руках падушкі. Праваахоўныя органы працягваюць папярэджваць аб супрацьпраўных дзеяннях і забароне правядзення мерапрыемства каля метро.

19.45 Моладзь адышла на 200 метраў ад метрапалітэну. Падцягнуліся людзі ад бібліятэкі. Ужо можна смела налічыць некалькі соцень.

Людзі чакалі, скандавалі "Біцца!", а ўрэшце пачалі бой самі: калашмацілі падушкамі тых, хто стаяў бліжэй. Кім аваладаў сітуацыяй і прапанаваў біцца "прыгожа", падзяліўшыся на роўныя войскі - па прынцыпу цотнасці-няцотнасці даты народзінаў.

20.15 Удзельнікі падзяліліся на два войскі, вынялі падушкі, і бітва пачалася. Агульная колькасць "вайроў" была - каля 300 чалавек. Яшчэ каля сотні назіралі. Бітва ішла хвілін дваццаць, пасля наляцела залева. Мокрыя ўдзельнікі падушачнага Грунвальда пабеглі да метро. Толькі некалькі дзясяткаў самых заўзятых дзялілі поле. Аднак пасля дажджу падцягнуліся гледачы ў цывільным і пачалі вылоўліваць з натоўпу арганізатараў. Забралі і Андрэя Кіма.

22.00 Да людзей, якія сабраліся ля Першамайскага РАУСу, выйшлі міліцыянты і паведамілі, што Андрэя Кіма заўтра будуць судзіць за арганізацыю несанкцыянаванага масавана мерапрыемства. Таксама яны перадалі просьбу Кіма знайсці яму адваката.

Нагадаем, 13 ліпеня Мінгарвыканкам адмовіў зарэгістраванай МГА "Гісторыка" ў правядзенні мерапрыемства, прымеркаванага да 600-годдзя Грунвальдскай перамогі ў Грунвальдскай бітве.

Ад сталічных уладаў прыйшоў стэрыятыпны адказ: "В связи с тем, что заявление МОО "Гісторыка" о проведении массового мероприятия не соответствует требованиям части 5 ст. 5 Закона "О массовых мероприятиях", Мингорисполком не разрешает проведение мероприятия в площадке рядом со зданием Национальной библиотеки".

Першая акцыя "Бой падушкамі", прымеркаваная 599-годдзя Грунвальдскай бітвы, прайшла ў Мінску без дазволу ўладаў 15 ліпеня 2009 года. Праз 2 месяцы, 8 верасня 2009 году, у гонар 495-годдзя Аршанскай бітвы адбылася другая ў гісторыі беларускага падушачнага руху санкцыянаваная акцыя. У другой бітве паўдзельнічала 400 чалавек.








**"Говори правду!" объявляет конкурс!**

**Придумай слоган и получи новый iPhone!**

Подробности на:
http://zapraudu.info/slogan



## Паэт Някляеў падараваў мастаку Камарову яхту

**Святкаванне 92-ой гадавіны прызнання ўлады Беларускай Народнай Рэспублікі Магілёвам (12 ліпеня 1918 года) і сустрэча Уладзіміра Някляева з магілёўскім актывам кампаніі "Гавары праўду"! супала з днём народзінаў вядомага магілёўскага мастака Базыля Камарова.**

У якасці падарунка лідэр кампаніі "Гавары праўду"! Уладзімір Някляеў падараваў Базылю Камарову сувенірную яхту.

Уладзімір Някляеў высока ацаніў заслугу мастака ў рэканструкцыі архітэктурнага пейзажа сярэднявечнага Магілёва. Акрамя гэтага ён падараваў яму зборнік сваіх вершаў "КОН".

"Для мяне гэты падарунак стаў поўнай нечаканасцю, - гаворыць мастак, - не ведаю, хто паспрыяў гэтаму, але было вельмі прыемна. Калі чалавек робіць прыемнае іншаму чалавеку, то гэта не можа застацца незаўважна. Я таксама падумаю над тым, якую карціну намаляваць Уладзіміру Някляеву і падараваць яму, можа гэта будзе карціна паводле ягонага зборніка вершаў, а можа яму што спадабаецца з ужо гатовага, тым больш, што ў мяне ёсць адна з Крэва, таго месца дзе нарадзіўся і вырас паэт. Трэба над гэтым падумаць".

Трэба адзначыць, што Базыль Камароў з'ўляецца менавіта тым мастаком, які рабіў роспіс Магілёўскага музей гісторыі горада.

# Актывісты "Гавары праўду" адзначылі гадавіну прызнаньня магілёўцамі ўлады БНР

***Радыё Свабода***

**Паўсотні актывістаў грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" прыйшлі на Савецкую плошчу да абласнога краязнаўчага музэю, каб згадаць падзею, якая адбылася 12 ліпеня 1918 году. Як сцьвярджаюць магілёўскія гісторыкі, 92 гады таму ў колішнім будынку акруговага суду 400 прадстаўнікоў магілёўскай грамадзкасьці прызналі вяршэнства ўлады Беларускай Народнай Рэспублікі ў сваім горадзе.**



Той гістарычны сход пастанавіў утварыць Магілёўскі нацыянальны камітэт. Камітэт узначаліў Міхаіл Кахановіч, які пазьней стаў першым дырэктарам Віленскай Беларускай гімназіі.

Сёньняшнюю грамаду актывістаў ачольваў Уладзімер Някляеў. Ён быў адзіны, хто да будынку музэю прыйшоў з букетам белых і чырвоных ружаў. На акцыі грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" не было лідэраў палітычных арганізацыяў абласнога цэнтру. Не прыйшлі й магілёўскія гісторыкі.

Адбыўся непрацягплы мітынг. На музэйным ганку пра падзею 1918 году апавядаў студэнт Дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Куляшова, жыхар Бабруйску Станіслаў Кавалеўскі. Ён піша дыплёмную працу на тэму "БНР і фармаваньне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці". З Бабруйску ў Магілёў ён прыехаў толькі дзеля таго, каб расказаць магілёўцам пра падзею 92-гадовай даўніны.

Пасьля Кавалеўскага выступіў Уладзімер Някляеў. Ён пахваліў хлопца за добры выступ і заклікаў прысутных не забывацца на важныя гістарычныя падзеі. Літаратар і лідэр грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" зазначыў, што людзі разумеюць, што адбываецца цяпер у краіне, але пакуль ім не хапае моцы, каб пра гэта сказаць уголас. Скончыў Уладзімер Някляеў кароткую сваю прамову ўскладаньнем кветак пад шыльду памяці магілёўскага краязнаўцы канца 19 і пачатку 20 стагодзьдзя Еўдакіма Раманава.

Пасьля выступу Ўладзімера Някляева акцыя скончылася. Удзельнікі паразыходзіліся. Акцыя прайшла без інцыдэнтаў зь міліцыяй. Яе не было ні на месцы падзеі, ні на плошчы ўвогуле.

# Предприниматели готовы сделать "Все!" ради правды

**"Что вы готовы сделать для того, чтобы правда в стране восторжествовала?", - с таким вопросом 25 июля, в День работников торговли Беларуси, обратились к предпринимателям Могилева активисты кампании "Говори правду!".**

Среди тех, кто согласился ответить, разыгрывался приз - романтический ужин на двоих в ресторане.

- Идея акции была в том, чтобы заставить задуматься людей: что они готовы сделать для торжества правды в стране? - рассказывает Андрей Двигун, активист кампании. - Большинство просто не смогли найти ответа на вопрос, но то, что они задумались - было очевидно.

"Всё!" - оказалось самым распространённым ответом (65%). Некоторые предприниматели при этом добавляли, что "в пределах разумного" и т.д.

Параллельно с конкурсом, на рынках Могилева раздавались открытки с поздравлением от кампании и стихами Владимира Некляева.

Победила в конкурсе Светлана с Привокзального рынка. Ее ответ был: я готова на все - вы только скажите, что нужно делать!

- Я раньше еще никогда ничего в жизни не выигрывала, - радость женщины была искренней и немного печальной. - А можно в ресторан вместо меня пойдут мои дети? А то мне не с кем идти...



**Победительница конкурса Светалана не скрывала своей радости**

**Наш Магілёў**

**Незалежнае грамадска - палітычнае выданне Горада**
**Выдавец Андрусь Волкаў, дырэктар Вітольд Няўрыда.**
**Надрукавана на ксераксе ў горадзе Магілёве. Наклад: 299 ас.**
**e-mail: mahilou@tut.by**